ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 3 (65)

САКАВІК 1938 г.

ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 3 (65)

САКАВІК 1938 г.






ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

# ЗАГАД № 45

## па Ўпраўленню Народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 29/I—38 г.*

§ 1.

Пры прыёмцы матэрыялаў перапісу жывёлы ад райінспектара Глускага раёна т. *Ельніцкага* ў матэрыялах кантрольных абходаў (ф. № 9) былі заўважаны выпраўленні лічбаў. Спецыяльна праведзенай праверкай на месцы—шляхам выезду ў раён—было ўстаноўлена, што т. *Ельніцкі*, атрымаўшы матэрыялы ад брыгадзіраў кантрольных абходаў і ўбачыўшы ў іх устаноўленыя імі факты ўкрыцця некаторымі грамадзянамі жывёлы пры перапісу,—самавольна без усякіх падстаў ва многіх выпадках укрыцця жывёлы перарабіў у формах як абарот (паступіла, нарадзілася).

Такім чынам, штучна быў паніжан процант утойкі жывёлы, што магло прывесці да памяншэння агульнага пагалоўя пры канчатковым зацверджанні ітогаў па раёну.

Тав. *Ельніцкі* не толькі не прызнаў факта падробкі, а, наадварот, прыняў усе меры, каб не быў ускрыты яго антыдзяржаўны ўчынак.

Тав. *Ельніцкі* ашуканскім шляхам прымусіў брыгадзіраў кантрольных абходаў пацвердзіць падробленую ім лічбу.

Усе прыведзеныя вышэй факты пацвердзіліся спецыяльнай праверкай, утворанай на месцы інструктарам сельгасаддзела т. *Зеленко* пры ўдзеле мясцовых работнікаў.

Гэтыя факты пацверджаны таксама прэзідыумам Глускага райвыканкома ад 25 студзеня 1938 г.

Улічваючы, што т. *Ельніцкі* ўжыў недапушчальныя метады работы, асабліва для работнікаў Наргасучота, у прамую задачу якіх уваходзіць барацьба за дакладную лічбу,—зняць яго з работы райінспектара з 1/II 1938 г. і перадаць справу пракурору для прыцягнення яго да крымінальнай адказнасці.

§ 2.

Участковаму інспектару Глускай інспектуры Наргасучота т. *Скрупскаму* за подпіс няправільнага акта, складзенага *Ельніцкім*, абвяшчаю вымову.

§ 3.

Тав. *Буйко*—выехаць у Глускую інспектуру Наргасучота і прыняць ад т. *Ельніцкага* ўсе справы інспектуры і, склаўшы акт аб прыёмцы і здачы, даслаць у Упраўленне.

Тав. *Буйко*—выконваць абавязкі райінспектара да асобага загада.

Нам. нач. УНГУ БССР Шындлер.

## ЗАГАД № 78

## па Ўпраўленню Народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 14/II 1938 года*

За самавольнае выдаткаванне дзяржаўных сродкаў, адпушчаных на ўтрыманне каня, не па прамому прызначэнню, за падробку ведамасці на выплату 2-м памочнікам упаўнаважанага па перапісу насельніцтва ў суме 420 руб. райінспектара Наргасучота Круглянскага раёна *Максімовіча* зняць з работы з 16/II 1938 года і прызначыць яго ўчастковым інспектарам гэтага-ж раёна. Прапанаваць *Максімовічу* ўнесці на рахунак УНГУ БССР 420 руб. к 1-му красавіка 1938 г.; у адваротным выпадку справу перадаць следчым органам для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

Ч. в. а. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Абудзееў.

## ЗАГАД № 85

## па Ўпраўленню Народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 17 лютага 1938 г.*

Праведзенай праверкай становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па Асіпавіцкаму раёну высветлена, што пагаспадарчыя кнігі ў сельсоветах яшчэ поўнасцю не заведзены, і пагэтаму ў спісы населеных месц не занесены насельніцтва і будынкі, планшэткі не выверааны на месцах па населеных пунктах.

Адначасова выяўлена, што ў Верайцоўскім сельсовеце за 1937 год у пагаспадарчых кнігах запоўнен толькі раздзел насельніцтва, а ўсе астатнія раздзелы, як жывёла, зямля, будынкі і інш., зусім не запоўнены, што фактычна з'яўляецца зрывам пярвічнага ўчота ў сельсовеце—цэнтры ўчастковага інспектара т. Баравіка.

Такое становішча здарылася ў выніку недапушчальна-нядбайных адносін участковага інспектара т. Баравіка да сваіх прамых абавязкаў і адсутнасці з боку райінспектара т. Капорыкава праверкі работы ўчастковых інспектароў на месцах.

Загадваю:

1. За нядбайныя адносіны да сваіх абавязкаў абвясціць участковаму інспектару т. Баравіку суровую вымову.

2. Указаць райінспектару т. Капорыкаву на неабходнасць устанаўлення сістэматычнай праверкі работы ўчастковых інспектароў на месцах, прычым зразумець, што за пастаноўку пярвічнага ўчота ў сельсоветах адказваюць перад УНГУ раённыя і ўчастковыя інспектары.

3. Звярнуць увагу ўсіх раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота БССР на неабходнасць сістэматычнай праверкі работы сакратароў сельсоветаў у сэнсе своечасовай адзнакі ў пагаспадарчых кнігах усякіх змен натуральнага руху насельніцтва, праводзімага па запісах ЗАГС'а з тым, каб учот насельніцтва ў пагаспадарчых кнігах быў заўсёды акуратным.

Ч. в. а. нач. Упраўлення Наргасучота БССР Абудзееў.

# Падрыхтоўка да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года

## Начальніку АКР УНГ, райінспектарам Наргасучота

Становішча падрыхтоўчых работ да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва па шэрагу райгорінспектур унушае сур'ёзнае апасенне за своечасовае і добраякаснае іх выкананне. Некаторыя рай(гор.)інспектуры да гэтага часу яшчэ благадушаствуюць, моў „яшчэ паспеем". Між тым у сапраўднасці часу засталося вельмі мала, а работы ўперадзе вельмі многа. Неабходна неадкладна пакончыць з такімі шкоднымі настроямі і мабілізаваць усіх работнікаў інспектур на тэрміновую і добраякасную падрыхтоўку да перапісу насельніцтва.

Некаторыя райінспектуры безадказна адносяцца да выканання заданняў бюро перапісу насельніцтва. Бабруйск, Віцебск, Рэчыца, Крычаў, Менскі раён і інш. да гэтага часу не даслалі інфармацыі па ўстаноўленай форме аб ходзе падрыхтоўчых работ па становішчу на 28/I 1938 г.

Адна з важнейшых падрыхтоўчых работ да перапісу— своечасовае запаўненне сельсовецкіх пагаспадарчых кніг— у радзе раёнаў пушчана на самацёк. Так, напрыклад, у Асіпавіцкім, Бешанковіцкім, Журавіцкім, Крычаўскім, Лепельскім і некаторых іншых раёнах да гэтай работы альбо зусім яшчэ не прыступілі, альбо толькі ўзяліся за яе.

Не ў лепшым становішчы знаходзіцца ў даны момант і складанне спісаў неселеных месц.

У Бешанковіцкім раёне, дзе інспектарам з'яўляецца т. Кулакоўскі, да гэтай работы па сутнасці не прыступілі. У Дубровенскім, Быхаўскім раёнах спіскі населеных месц складзены толькі па 1 сельсовету. У Жыткавіцкім раёне скончана толькі па 2 сельсоветах. Ці можна мірыцца з гэткім становішчам? Для т. т. Жукава, Старавойтава і Кулакоўскага, маючых ужо працяглы вопыт работы ў якасці райінспектароў, асабліва недапушчальна гэткае адставанне.

Не менш адказным участкам у сістэме падрыхтоўчых работ з'яўляецца і складанне спісаў домаўладанняў, устанаўленне граніц гарадоў, гарадскіх паселішчаў і падрых-

тоўка картаграфічнага матэрыяла. Аднак, т. Філіпаў (Брагінскі раён), т. Чырскі (Слуцк—горад) і інш. нічога яшчэ не прадпрынялі ў гэтым напрамку.

Пастанова СНК БССР аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва 1939 года імі не скарыстана, як не скарыстана гэта пастанова і некаторымі іншымі райінспектарамі. Гэткае становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва 1939 г.—бяздзейнасць адных, недысцыплінаванасць другіх—сведчыць аб тым, што пастанову СНК СССР аб адмене перапісу насельніцтва 1937 года яшчэ не зразумелі і належных вынікаў для сябе з гэтай пастановы не зрабілі.

Прапаную ўсім рай(гор.)інспектарам, не даслаўшым інфармацыі на 28/I, неадкладна такавыя даслаць; адначасова паведаміць прычыны невыканання імі заданняў бюро перапісу насельніцтва.

Усім рай(гор.)інспектарам у выпадку немагчымасці па тых ці іншых прычынах выслаць своечасова інфармацыю, паведаміць аб гэтым таксама бюро перапісу насельніцтва. Поўнасцю скарыстаць магчымасці, прадастаўленыя В/ пастановай Совета Народных Камісараў БССР, і разгарнуць падрыхтоўчыя работы да перапісу (складанне спісаў населеных месц, домаўладанняў, нумарацыя дамоў і кватэр, падрыхтоўка картаграфічнага матэрыяла) у адпаведнасці з указаннямі бюро перапісу насельніцтва.

Неадкладна паведамляць аб усіх выпадках невыканання горсоветамі і райвыканкомамі пастановы Соўнаркома БССР аб падрыхтоўчых мерапрыемствах па перапісу насельніцтва 1939 г., адначасова паведаміўшы, што Вамі персанальна зроблена, каб забяспечыць выкананне гэтай пастановы. Да ведама паведамляю, што 15/II начальнік УНГУ дакладвае СНК БССР аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва.

Прашу ўсіх рай(гор.)інспектароў улічыць, што падобная бяздзейнасць і недысцыплінаванасць у далейшым цярпіма не будзе.

На вытворчых нарадах работнікаў інспектуры абмеркаваць становішча падрыхтоўчых работ і мерапрыемствы па хутчэйшай ліквідацыі запушчанасці гэтага ўчастка работы.

Аб прынятых Вамі мерапрыемствах інфарміруйце мяне да 10/II 1938 года.

Нам. начальніка УНГУ БССР **Шындлер.**

## Всем рай(гор.)инспекторам Нархозучета

В связи с поступившими запросами от некоторых райинспекторов раз'ясняю:

I. Вопрос: Нужно ли заверять списки населенных мест в сельсовете?

Ответ: В информационных бюллетенях УНХУ БССР в № 11 на стр. 15 и № 13 на стр. 23, а также в информационном бюллетене ЦУНХУ № 12 на стр. 14 записано:

*„Списки населенных мест по сельсовету должны быть подписаны участковым инспектором. Полнота и правильность списка подтверждается подписью председателя сельсовета“.*

Тоже самое записано в инструкции, разосланной бюро переписи населения всем рай(гор.)инспекторам.

Кроме того, в информационном бюллетене ЦУНХУ № 11 на стр. 16 по этому вопросу записано:

*„Списки населенных мест по сельсовету необходимо обязательно обсудить с председателями сельсоветов и секретарями сельсоветов.*

*Правильность и полнота составленных списков должны быть заверены подписью председателя сельсовета“.*

II. Вопрос: При заполнении в списках населенных мест количества жилищных зданий, мы встретились с тем, что здания совхозов и фабрично-заводских предприятий не записаны в сельсоветских книгах. Как быть в этом случае?

Ответ: Сообщаю, что указания по этому вопросу помещены в информационных бюллетенях УНХУ БССР № 11 на стр. 14—15 и № 13 на стр. 22—23.

*„Записи о числе строений, хозяйств и населения.*

Весьма ответственным является заполнение граф о числе строений, хозяйств и населения.

Эти сведения получаются из записей в книгах сельсоветского учета по состоянию на 1/I 1938 года. Поэтому каждый инспектор УНХУ должен добиться того, чтобы закладка книг на 1938 г. была проведена тщательно, полно и своевременно.

Особо следует иметь в виду, что число хозяйств (гр. 9) и число населения (гр. 10) отдельно стоящих жилых строений записываются „в том числе“, что означает, что эти цифры должны также войти и в цифру гр. 5 и 6.

Строения. Число жилых строений в населенном месте (гр. 4-ая списка) определяется по записям в книгах сельсоветского учета. Это число складывается из следующих данных:

а) жилые строения, принадлежащие колхозам (таблица 6, форма № 1—журнал учета основных производственных показателей колхоза);

б) строения колхозников, рабочих и служащих (таблица 3, форма № 2);

в) строения единоличников (таблица 2, форма № 3).

При этом из книг нужно выбрать записи только о тех строениях, которые находятся на территории данного населенного места (в книгах иногда записи ведутся по всему сельсовету в целом, без разделения на отдельные населенные места).

*Если на территории сельсовета расположены совхозы, МТС, фабрично-заводские, железнодорожные и другие предприятия, следует установить—числятся ли все принадлежащие им жилые строения в книгах сельсоветского учета. Если не числятся, их следует при записях в список населенных мест включить.*

Хозяйства. Число хозяйств (графа 5 и графа 9 списка) должо быть получено из „Списка хозяйств, об'единяемых сельсоветом" (форма № 4) и „Списка лиц, временно проживающих на территории сельсовета" (форма № 4-а). При пользовании формой № 4 нужно проверить, все ли хозяйства вписаны в этот список, и, кроме того, разметить хозяйства по населенным пунктам, где они находятся. Если записи в ф. № 4 не гарантируют включения всех хозяйств сельсовета, следует делать подсчет хозяйств по формам №№ 2 и 3, добавляя хозяйства временно проживающих (форма № 4-а).

Население. Особо тщательно должно быть установлено по каждому населенному месту население.

Количество населения, проживающего в данном населенном месте (графа 6 и графа 10 списка) получается путем подсчета числа лиц в каждом хозяйстве по записям в форме № 2 (таблица 1) и форме № 3 (таблица 1), включая всех временно отсутствующих. Сюда должно быть прибавлено временно проживающее население, записанное в список (форма № 4-а).

Кроме того, устанавливается—нет-ли на территории сельсовета рабочих и служащих, живущих в фабрично-заводских, железнодорожных и других помещениях и не занесенных в сельсоветские списки. Если таковое население обнаружится, оно должно быть обязательно учтено. Сведения о численности этого населения получаются у администрации соответствующих предприятий.

При заполнении граф списка о числе жилых строений, хозяйств и, в особенности, о численности населения было бы *чрезвычайно вредно и совершенно недопустимо подходить к сельсоветскому учету формально, без критики.* В книгах сельсоветского учета могут быть обнаружены пропуски строений, хозяйств и населения. Все такие пропуски в книгах сельсоветского учета необходимо немедленно устранить. Важнейшее требование, которое пред'является к списку населенных мест, наряду с исчерпывающим

перечнем населенных мест, заключается в том, чтобы число жилых строений, хозяйств и населения на 1 января 1938 года было безусловно полное, без каких-либо пропусков. Участковый инспектор несет персональную, личную ответственность за правильность и полноту списков населенных мест".

Обращаю внимание всех рай(гор.) инспекторов, что во всех случаях неясности в работе необходимо немедленно выяснить вопрос в УНХУ БССР.

Обязываю всех рай(гор.)инспекторов самим внимательно читать и изучать посылаемые инструкции, строго сохраняя установленное правило, что ни один работник не может быть допущен к выполнению учетно-статистической операции, пока он хорошо не изучит инструкции.

Информационные бюллетени № 11, 13 УНХУ БССР и №№ 11, 12 ЦУНХУ Союза были Вам высланы своевременно.

Зам. нач. Управления Нархозучета БССР **Шиндлер**.

## Пастанова Арганізацыйнага камітэта Гомельскага раёна ад 26 студзеня 1938 года

### „Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва ў 1939 годзе“

Надаючы велізарна-палітычнае народна-гаспадарчае значэнне прадстаячаму перапісу насельніцтва ў 1939 годзе і ўлічваючы неабходнасць правядзення рада падрыхтоўчых работ для забеспячэння своечасовай і добраякаснай падрыхтоўкі да перапісу, на падставе пастановы СНК СССР ад 21/XII 1937 г. Арг. камітэт пастанаўляе:

1. Абавязаць старшынь с/саветаў, праўленні калгасаў аказаць садзейнічанне раймспектуры Наргасучота ў арганізацыі работ па складанню спісаў населеных месц, вылучыўшы ў дапамогу ўчастковым інспектарам Наргасучота членаў сельскага актыва, якія добра ведаюць мясцовасць, а таксама забяспечыць сродкамі перасоўвання ўнутры раёна.

2. Абавязаць старшынь і сакратароў с/саветаў закончыць завядзенне новых пагаспадарчых кніг на 1938 г. (пярвічны с/савецкі ўчот) не пазней 1/II—38 г.

Указаць старшыням с/саветаў і сакратарам, што яны нясуць персанальную адказнасць за правільнае вядзенне кніг. Устанавіць, што пагаспадарчыя кнігі с/саветаў павінны быць запоўнены абавязкова, шляхам натуральнага абхода.

3. Абавязаць райЗА забяспечыць складанне і капіраванне схематычных карт раёна і с/саветаў, удакладняючы пры гэтым граніцы кожнага с/савета, і прадставіць райінспектару Наргасучота не пазней 5/II 1938 г.

4. Абавязаць райплан, інспектуру Наргасучота, райЗА неадкладна прыступіць сумесна з гарадской планавай камісіяй да ўдакладнення граніц горада і раёна; работу гэту скончыць не пазней 5/II 1938 г. Вынікі прадставіць Арг. камітэту да гэтага тэрміна.

5. Заслухаць райінспектара Наргасучота аб ходзе падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва на Арг. камітэце 10/II 1938 года.

## Пастанова прэзідыума Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэта

*ад 11 лютага 1938 года*

**Аб ходзе падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва ў 1939 г.**
(даклад. т. *Кулакоўскі*)

Прэзідыум райвыканкома пастанаўляе:

1. Адзначыць, што пастанова прэзідыума райвыканкома ад 1 лютага, аб завядзенні сельсоветамі пагаспадарчых кніг, паасобнымі сельсоветамі (Ульскі, Сініцкі, Біклажанскі) не выканана, завядзенне пагаспадарчых кніг яшчэ не скончана.

2. Улічваючы, што сакратары Сініцкага і Ульскага сельсоветаў т. т. *Гайдукоў* і *Міненак* не толькі не скончылі завядзенне пагаспадарчых кніг, а нават не з'явіліся на пасяджэнне прэзідыума райвыканкома для заслухоўвання іх па гэтаму пытанню, аб'явіць ім суровую вымову і папярэдзіць іх, што за ігнараванне справы ўчота ў сельсовеце, асабліва ў галіне своечасовага і акуратнага вядзення пагаспадарчых кніг, да іх будуць прыняты больш суровыя меры спагнання.

3. Прапанаваць раённаму інспектару Наргасучота т. *Кулакоўскаму* паведаміць на наступным паседжанні прэзідыума райвыканкома аб тых сельсоветах, па якіх не будзе скончана завядзенне пагаспадарчых кніг на 1938 год.

## Пастанова прэзідыума Рудзенскага райвыканкома

*ад 31 студзеня 1938 года*

Слухалі: Аб ходзе падрыхтоўкі к усесаюзнаму перапісу насельніцтва і завядзенні пагаспадарчых кніг у сельсоветах (дакладчык тав. *Растокінскі*).

Пастанавілі: 1. Не гледзячы на ўсю важнасць завядзення пагаспадарчых кніг, як аднаго з важнейшых мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва, рад старшынь і сакратароў сельсоветаў завядзенне паказаных кніг яўна зрываюць: Дрычанскі сельсовет (старшыня *Шкроб*), Цітвянскі с/совет (старшыня *Молчан*) пачалі завадзіць кнігі толькі 26/I—38 г.; Голацкі сельсовет (старшыня *Бачыла*), пачаў завадзіць кнігі толькі 28/I.

2. Адначасова прэзідыум РВК адзначае, што з боку ўчастковага інспектара НГУ *Шчарбака* не было праяўлена належнага кантроля за ходам завядзення кніг і не было

своечасовай сігналізацыі аб зрыве гэтай работы па ўказаных сельсоветах яго ўчастка.

3. Улічваючы, што сакратары Дрычанскага і Цітвянскага с/советаў не былі прыцягнуты да перапісу жывёлы, а ім былі створаны ўсе ўмовы для завядзення пагаспадарчых кніг у тэрмін,—прэзідыум лічыць, што зрыў запаўнення пагаспадарчых кніг па паказаных сельсоветах вытвараўся выключна па нядбайнасці кіраўнікоў гэтых сельсоветаў.

Выходзячы з гэтага, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Старшыні Дрычанскага сельсовета *Шкробу* за незабеспячэнне завядзення пагаспадарчых кніг у тэрмін—абвясціць вымову; сакратароў Цітвянскага с/совета *Шэлег*, Дрычанскага *Мазанік*, а таксама і старшыні Цітвянскага сельсовета *Молчана* папярэдзіць, што, у выпадку далейшага зрыву завядзення пагаспадарчых кніг, яны будуць прыцягнуты да больш суровай адказнасці.

2. Участковаму інспектару НГУ т. *Шчарбаку* за незабеспячэнне належнага кантроля за ходам завядзення пагаспадарчых кніг паставіць на від.

3. Папярэдзіць усіх старшынь і сакратароў сельсоветаў аб безагаворачным забеспячэнні завядзення пагаспадарчых кніг поўнасцю да 5 лютага г.г.

4. Абавязаць райінспектара НГУ т. *Растокінскага* забяспечыць належны і своечасовы кантроль за запаўненнем і вядзеннем у далейшым пагаспадарчых кніг у сельсоветах.

5. Акрамя гэтага, у мэтах належнай падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва:

а) абавязаць Смілавіцкі м/совет да 5 лютага ўпарадкаваць нумарацыю дамоў па м. Смілавічы;

б) абавязаць старшага землеўпарадкаваценя райЗА т. *Марчанка* к 7/II забяспечыць райінспектуру раённай картай з нанясеннем граніц сельсоветаў, граніц раёна з паказаннем крайніх населеных пунктаў мяжуючых раёнаў, а таксама скласці новы план м. Смілавічы з разбіўкай на кварталы;

в) межы гарадской чарты па м. Смілавічы ўстанавіць: з паўночнага боку—шасэ Менск—Магілеў, у граніцы палявая дарога, ідучая к базару, і Запольскія могілкі; з усходняга боку—палявая дарога—шасэ—базар—учгас Смілавічы—дарога на Горчу; з паўднёвага боку—перакрыжаванне дарог на п. Горчу і на Убель і аканечнасць м. Смілавічы па Дукорскай вул.; з заходняга боку—р. Волма, арцель „Чырвоная зорка".

6. У мэтах упарадкавання разбіўкі населеных пунктаў паміж с/советамі лічыць неабходным п. Пасеку—як па насельніцтву, так і па эканоміцы больш звязаную з Дудзіцкім сельсоветам—аднесці к апошняму, із'яўшы з ведання Узлянскага сельсовета; п. Горча, як перададзены калгасу імя Калініна, перадаць Карзуноўскаму с/совету, із'яўшы з ведання м/совета, аб чым узбудзіць хадайніцтва перад ЦВК БССР.

## Пастанова паседжання прэзідыума Халопеніцкага раённага выканаўчага камітэта

*ад 2 лютага 1938 г.*

### Аб становішчы пярвічнага ўчота ў сельсоветах

Заслухаўшы даклад інспектара Наргасучота аб становішчы пярвічнага ўчота ў Заборскім, Хацюкоўскім, Траянаўскім, Жартайскім і Халопеніцкім сельсоветах, прэзідыум РВК адзначае, што старшыні і сакратары ўказаных сельсоветаў да гэтага часу не зрабілі належнага пералому ў справе правядзення чоткага ўчота ў сельсоветах і гэту работу ставяць як апошнюю справу. У вышэй паказаных сельсоветах, не гледзячы на тое, што пагаспадарчыя кнігі на 1938-39 гг. былі атрыманы сакратарамі сельсоветаў своечасова і інструктаж па іх запаўненню быў праведзен яшчэ ў снежні месяцы 1937 г., усё-ж справа запаўнення кніг сельсовецкага ўчота да гэтага часу цалкам не зроблена. Дасланы інспектарам Наргасучота план работы сакратароў сельсоветаў на першы квартал 1938 года і адносіна старшыні РВК аб сканчэнні запаўнення кніг да 20 студзеня 1938 года—не выкананы. Сакратары сельсоветаў, на якіх персанальна ўскладзена вядзенне пагаспадарчых кніг у сельсоветах і наладжванне ўчота, спасылаюцца на рад іншых работ, а сваёй асноўнай работай па наладжванню ўчота не займаюцца. Расцэньваючы гэтыя адносіны сакратароў сельсоветаў, як факты, спрыяючыя зрыву і заблытанасці ўчота ў сельсовеце і тым самым ствараючыя перашкоды для запаўнення спісаў населеных месц па перапісу насельніцтва 1939 года, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За поўную бяздзейнасць у справе вядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах сакратара Хацюкоўскага сельсовета т. *Млынорыка* папярэдзіць; сакратару Траянаўскага сельсовета т. *Гаспадарыку* і сакратару Заборскага сельсовета т. *Петрыкаву* аб'явіць вымову.

2. Прапанаваць усім старшыням сельсоветаў справу вядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах узяць пад свой штодзённы непасрэдны кантроль, ствараючы такія ўмовы ў рабоце сакратароў сельсоветаў, якія-б забяспечылі ім поўнае і своечасовае выкананне плана ўчотных работ сельсовета.

3. Апошні раз папярэдзіць усіх сакратароў сельсоветаў, што вядзенне пагаспадарчых кніг сельсоветаў, журналаў калгасаў і справаздачнасці сельсоветаў па зацверджаных формах ЦУНХУ, унясенне ў іх своечасова на працягу ўсяго года паказчыкаў або змен, якія адбудуцца ў гаспадарцы, з'яўляецца іх асноўнай работай.

4. Прапанаваць усім сакратарам с/советаў да 10-га лютага ў пагаспадарчых кнігах на 1938-39 гг. запоўніць усе раздзелы кніг шляхам падворнага абхода двароў.

5. Прапанаваць інспектару Наргасучота не радзей 2-х раз у месяц утвараць абследванні с/советаў па справе пастаноўкі ўчота і вядзення пярвічнай справаздачнасці с/советаў па ўсіх галінах гаспадаркі і прадстаўляць іх у аддзел РВК. У выпадку выяўлення заблытанасці ўчота прыцягваць асоб, вінаватых у гэтым, да адказнасці згодна пастановы ЦВК СССР ад 27-га лістапада 1933 года.

6. На наступным паседжанні РВК заслухаць яшчэ 5 с/советаў аб выкананні гэтай пастановы з папярэднім абследваннем с/советаў.

7. Абавязаць рай(гор.)інспекцыю праз кожны месяц дасылаць с/советам звесткі аб колькасці адработаных чалавека/дзён і коне/дзён, калгасамі і гаспадаркамі аднаасобнікаў.

## Выпіска з пратакола паседжання прэзідыума Уваравіцкага райвыканкома

*ад 7/II 1938 г.*

Слухалі: Аб прадстаўленні справаздачнасці калгасамі, прадпрыемствамі і ўстановамі раёна.

(Дакладвае інспектар НГУ т. *Кудрыцкі*)

Пастанавілі: 1. За непрадстаўленне справаздачы калгасаў аб рабоце жывёлагадоўчых ферм за IV квартал і за 1937 год у цэлым, не гледзячы на неаднаразовыя напамінкі з боку Наргасучота і за парушэнне ўчотнай дысцыпліны, на падставе пастановы СНК СССР ад 11/V 1932 года аштрафаваць рахункавода калгаса „Дружба" на суму 100 р.,

калгаса „Новае жыццё"—на суму 100 руб. і рахункавода калгаса „Прасвет" за непрадстаўленне справаздачы за II і III кварталы на суму 50 руб.

2. Адзначыць, што такія калгасы, як „Комінтэрн" (рахункавод тав. *Хрупкін*), „Энгельс" (рахункавод т. *Карпенко*), „Чырв. лозкі" (рахункавод тав. *Дземідкоў*) і інш., сістэматычна прадстаўляюць няправільныя справаздачы, не запаўняюць усіх раздзелаў справаздачы, у іх наглядаецца сістэматычная няўвязка ў саставе стада, продажу, убою і падзяжу жывёлы.

3. Бухгалтара ільнозавода тав. *Савіча С.* за сістэматычнае спазненне з прадстаўленнем справаздачы па ўчоту працы і зарплаты (форма № 1), на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР № 82/530 ад 27/XII 1933 г. аштрафаваць на 50 руб.

4. Указаць рахункаводам калгасаў, бухгалтарам прадпрыемстваў, МТС і соўгаса Уваравічы, што за непрадстаўленне справаздач па фермах у тэрмін, устаноўлены ўрадам, а таксама за парушэнне ўчотнай дысцыпліны—вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

5. Гэту пастанову абгаварыць ва ўсіх калгасах на праўленнях калгасаў.

## Пастанова прэзідыума Тураўскага райвыканкома

*ад 31/I 1938 года*

### Аб становішчы хода завядзення пагаспадарчых кніг у с/советах

Вытваранай райінспектурай НГУ праверкай завядзення пагаспадарчых кніг устаноўлена, што па Азяранскаму і Танежскаму с/с пагаспадарчыя кнігі не заведзены; не закончылі завядзенне кніг Тураўскі, Запясоцкі, Верасніцкі і Перароўскі с/советы.

Старшыні гэтых с/с самаўхіліліся ад гэтай важнай работы і гэтым самым парушаюць пастановы СНК СССР і СНК БССР, ведучы пад пагрозу зрыву падрыхтоўку да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і выбараў у Советы.

Надаючы вялікае палітычнае і гаспадарчае значэнне падрыхтоўцы да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім старшыням і сакратарам с/с на працягу 10 дзён поўнасцю скончыць завядзенне пагаспадарчых кніг у с/с шляхам падворнага абхода.

2. Указаць старшыням с/с, што яны персанальна н/ адказнасць за своечасовае і правільнае завядзенне па дарчых кніг у с/советах.

3. Указаць старшыні Азяранскага с/с тав. *Ніцевічу*, што калі на працягу адной дэкады не будуць заведзены пагаспадарчыя кнігі, то да яго будуць прыняты суровыя меры спагнання.

4. Абавязаць райінспектара НГУ тав. *Сырамаха* сістэматычна аказваць садзейнічанне і практычную дапамогу с/советам у наладжванні сельсовецкага ўчота.

5. Абавязаць райінспектара НГУ тав. *Сырамаха* на працягу 1-й паловы лютага м-ца ўтварыць праверку становішча ўчота па ўсіх сельсоветах раёна і вынікі праверкі паведаміць прэзідыуму РВК к 10/II 1938 года.

## Выпіска з пратакола № 8 паседжання прэзідыума Клімавіцкага РВК

*ад 7-га лютага 1938 года § 133*

Слухалі: Аб завядзенні пярвічнага ўчота ў с/советах на 1938 г. (Дакл. старшыні с/советаў: Мілаславіцкага—*Нікіціна*, Дубравіцкага—*Асмалоўскага*, Асмалавіцкага—*Фаменкова* і *Давыдава*).

1. Адзначыць, што асобныя с/сельсоветы, як: Раднянскі, Мілаславіцкі, Ціманаўскі, Красавіцкі і інш., да гэтага часу не зразумелі ўсёй сур'ёзнасці справы завядзення кніг пярвічнага ўчота ў с/советах і ўказання РВК аб поўным сканчэнні гэтай работы да 5/II—38 г. не выканалі, чым працягваюць меўшуюся ў мінулым хаатычнасць у справе ўчота і зрываюць своечасовую падрыхтоўку да перапісу насельніцтва.

2. Не гледзячы на тое, што РВК даваў указанні аб тым, што пагаспадарчыя кнігі павінны заводзіцца адказнымі работнікамі с/с шляхам абхода двароў, Мілаславіцкі с/совет перадаручыў гэту работу асобным рахункаводам калгасаў, у выніку чаго кнігі запаўняліся няправільна.

Сакратары Галіцкага і Макеевіцкага с/советаў пры запаўненні кніг дапусцілі блытаніну, заносячы гаспадаркі рабочых, служачых і калгаснікаў у адны і тыя-ж кнігі, няправільна заносячы паказчыкі па асобных гаспадарках, а Красавіцкі с/совет запаўняў кнігі не ў разрэзе тых населеных пунктаў, спіс якіх быў выдан Наргасучотам.



3. Прэзідыум РВК лічыць зусім недапушчальным, калі асобныя с/советы (Макеевіцкі) замест барацьбы за пастаноўку дакладнага ўчота і справаздачнасці ў с/советах па зацверджаных урадам формах і тэрмінах, парушае тэрміны і формы ўрадавай справаздачнасці, увёўшы незацверджаную ўрадам 5-дзённую справаздачу калгасаў, патрабуючы ад апошніх штодзённых звестак па выкананню лесазагатовак, мясапаставак і г. д.

4. Указаць старшыням с/советаў: Раднянскага, Мілаславіцкага і Красавіцкага, што ў выніку самаўхілення іх ад кіраўніцтва работай па завядзенню пярвічнага ўчота гэта справа пушчана на самацёк.

Папярэдзіць старшынь і сакратароў гэтых і інш. с/советаў, што калі да 10/II г. г. не будуць запоўнены кнігі пярвічнага ўчота, прэзідыум РВК вымушан будзе вінаватых прыцягнуць да суровай адказнасці.

Абавязаць старшынь усіх с/советаў праверыць работу па завядзенню пярвічнага ўчота з тым, каб кнігі поўнасцю былі закончаны, шляхам абавязковага абхода двароў, не пазней 10/II г. г.

5. Прымаючы пад увагу, што сакратар Красавіцкага с/совета *Глушакоў* упарта не выконвае ўказанні аб запаўненні кніг пярвічнага ўчота, сістэматычна парушае тэрміны справаздачнасці с/советаў, заблытаў рахункаводства с/совета і растраціў дзяржаўныя грошы,—яго з работы сакратара с/совета зняць і справу перадаць райпракурору для прыцягнення да судовай адказнасці.

6. Адзначаючы, што горсовет зусім марудна праводзіць работу па ўпарадкаванню нумарацыі дамоў горада, гэтым самым затрымлівае складанне спісаў домаўладанняў па гораду, прапанаваць старшыні горсовета т. *Бязлюдаву* да 15/II г. г. поўнасцю выканаць работу згодна пастановы прэзідыума РВК ад 16/I 1938 года.

7. Адмяніць незаконна ўведзеную Макеевіцкім с/советам справаздачу калгасаў і ўказаць старшыні с/с т. *Губернатаву* на незаконнае патрабаванне ад калгасаў справаздач па незацверджаных урадам формах і папярэдзіць старшынь усіх с/советаў, што пры паўтарэнні падобных фактаў, яны будуць прыцягвацца да адказнасці.

8. Абавязаць інспектара Наргасучота вытвараць праверку ўсіх с/советаў па завядзенню імі кніг пярвічнага ўчота і 16/II 1938 года дакласці прэзідыуму РВК.

## Выпіска з пратакола паседжання прэзідыу Лёзнянскага РВК

*ад 22/II 1938 г.*

Слухалі: Аб адмене распараджэння Упаўкомзага аб перапісу авец.

Пастанавілі: Распараджэнне Упаўкомзага ад 16/II 1938 г. аб перапісу авец, як няправільнае і супярэчачае пастанове СНК СССР,—адмяніць.

Сакратар РВК (подпіс)

**Спіс райінспектур НГУ, якія ўключыліся ў соцспаборніцтва ў 1938 г.**

1. Чавуская . . . . . . . . . . з Мсціслаўскай, Лепельскай Дрыбінскай
2. Ельская . . . . . . . . . . . з Нараўлянскай
3. Камарынская . . . . . . . . з Брагінскай
4. Ушацкая . . . . . . . . . . з Лепельскай
5. Уваравіцкая . . . . . . . . . з Будакашалеўскай
6. Талачынская . . . . . . . . з Круглянскай
7. Брагінская . . . . . . . . . з Шклоўскай
8. Лельчыцкая . . . . . . . . . з Ельскай
9. Лепельская гор. інспектура . з Полацкай гор. інспектурай
10. Асіпавіцкая . . . . . . . . . з Чэрвеньскай
11. Полацкая . . . . . . . . . . з Расонскай
12. Свяцілавіцкая . . . . . . . . з Веткаўскай
13. Рагачоўская . . . . . . . . з Жлобінскай
14. Лепельская акр. УНГУ . . . з Полацкім акр. УНГУ
15. Рагачоўская . . . . . . . . з Быхаўскай

---

## Табель отчетности о сети и деятельности учреждений Народного Комиссариата Здравоохранения Союза ССР в 1938 году

| Название форм | №№ форм | Кто представляет | Куда представляет | Отчетный период | Срок отсылки отчета |
|---|---|---|---|---|---|
| | | **А. Сеть и деятельность лечебно-санитарных учреждений** | | | |
| Отчет о движении заразных заболеваний | 1 | Все учреждения амбулаторной помощи системы Наркомздрава | Рай(гор.)здраву | Месячный | 2-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | 1 | Все учреждения амбулаторной помощи общества Красного Креста и Полумесяца, Главсевморпути, Всекопромсовета, НКСО, Копинстрахкассы, Главзолото. | Рай(гор.)здраву | „ | 2-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | РИК-85 | Рай(гор.)здраву | Обл.(край)здраву, НКЗдраву АССР; в республик., не имеющ. областного деления,— НКЗдраву ССР. | „ | 5-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | „ | Горздравы городов, выделенных в самостоятельные адм.-хоз. единицы. | 1. Обл.(край)здраву, НКЗдраву АССР. 2. НКЗдраву ССР. 3. НКЗдраву СССР | „ | Тоже. |
| | „ | Обл.(край)здрав, Наркомздрав АССР. | 1. НКЗдраву ССР. 2. УНХУ обл.(края) АССР (в районном разрезе). | Месячный | 11-го числа следующего за отчетн. месяца |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Отчет о предохранительных прививках | 2 | Все учреждения системы Наркомздрава, производящие прививки. | Рай(гор.)здраву. | Месячный | 2-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | 2 | Все учреждения амбулаторной помощи об-в Красного Креста и Полумесяца, Главсевморпути, Всекопромсовета, НКСО, Коопинстрахкассы, Главзолото. | Рай(гор.)здраву. | Месячный | 2-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | РИК-87 | Рай(гор.)здрав. | Обл.(край) здраву, НКЗдраву АССР; в республик., не имеющих областного деления,— НКЗдраву ССР. | Месячный | 5-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | » | Обл.(край)здрав, НКЗдрав АССР. | 1. НКЗдраву ССР (в районном разрезе).<br>2. УНХУ обл. (края) АССР. | Месячный | 11-го числа следующего за отчэтн. месяца. |
| Отчет о числе проведенных родов и абортов. | 5 | Лечпрофучреждения, проводящие роды и аборты. | Рай(гор.)здраву | Месячный | 3-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | РИК-92 | Рай(гор.)здрав. | Обл.(край)здраву, НКЗдр. АССР; в республик., не имеющих областного деления,— КНЗдраву ССР. | Месячный | 8-го числа следующего за отчетным месяца. |
| | РИК-92 | Обл.(край)здрав, НКЗдрав АССР | НКЗдраву ССР с выделением городов с насел. 100 тыс. и более. | Месячный | 15-го числа следующего за отчетным месяца. |

